© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013


# ПАГОНЯ

Чацвер
7 верасня 2000 г.
№ 33 (480)
Кошт 70 рублёў


## Віншаванне

**Гарадзенская гарадская арганізацыя БНФ «Адраджэньне» віншуе усіх гарадзенцаў з Днём Беларускай Вайсковай Славы. Аршанская бітва 1514 года назаўсёды ўвайшла ў гісторыю як узор вайсковага майстэрства і мужнасці беларускіх ваяроў. Яна яшчэ і сведка таго, што нашыя продкі на працягу стагоддзяў вялі крывавыя войны за незалежнасць з усходнім агрэсарам - Маскоўскай дзяржавай. І ў сённяшніх інтэграцыйных гульнях рэжыму з Расеяй яна, як ніколі, з'яўляецца сімвалам змагання за вольную Беларусь. Са святам, дарагія суайчыннікі!**



## Сьвяту - быць!

**У пятніцу Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў у правядзенні святочных пікетаў ды канцэрта, якія рыхтавала гарадзенская арганізацыя БНФ «Адраджэньне» на Дзень Беларускай Вайсковай Славы 8 верасня.**

Гарвыканкам адмовіўся нават разглядаць заяву гарадзенскай арганізацыі БНФ «Адраджэньне». Хаця закон «Аб мітынгах...» абавязвае яго гэта зрабіць, і даць адказ у адпаведны тэрмін. Мэр горада спадар А.Пашкевіч манкіраваў сваімі службовымі абавязкамі. Гарвыканкам спрабуе зрабіць выгляд, што БНФ у горадзе не існуе, на той падставе, што арганізацыя да гэтага часу не можа прайсці перапастаноўку на ўлік (у гэтым жа гарвыканкаме!).

Але БНФ «Адраджэньне» - гэта рэальныя людзі, рэальная палітычная і грамадская сіла ў горадзе. Таму на пасяджэнні Рады 5 верасня франтаўцы вырашылі, што нягледзячы на забарону ўладаў, свята адбудзецца. Пачнецца святкаванне тэматычнай выставай вядомага мастака Зміцера Іваноўскага. Плануецца замовіць памінальныя малебны за беларускіх ваяроў, палеглых за радзіму, у Фарным касцёле ды Каложскай царкве. Будуць ускладзеныя вянкі і кветкі да памятных месцаў Гародні абаронцам Айчыны. А завершыцца свята падняццем бел-чырвона-белага сцяга ды бардаўскім канцэртам на традыцыйным месцы святкавання Дня Беларускай Вайсковай Славы, ля Каложы.

## Графіка ад Кузняцовай

**Сёння, 7 верасня, вернісажам гарадзенскай мастачкі Алены Кузняцовай распачынаецца чарговы выставачны сезон у Галерэі мастацтваў «У Майстра».**

Гэта першая персанальная выстава Алены, і прадстаўлена яна будзе графікай.

**Ул.Інф.**

## «Беларускі» ансамбаль - «Польскія кветы»

**З 31 жніўня па 3 верасня ў Польшчы праходзіў фэст касцельнай песні. Упершыню ў гэтым фэсьце ўзяў удзел беларускі ансамбаль - «Польскія кветы» з Астраўцу.**

Кампазытар ансамблю Аляксандар Альховік патлумачыў выбар тым, што на адным зь іх канцэртаў увесну пабываў консул Польшчы, якому, відаць, запаў у душу выступ астраўчанаў. Усе песні будуць выкананыя на польскай мове. У складзе ансамблю - сямёра астравецкіх школьнікаў, якія паглыблена вывучаюць польскую мову.

**БАРЦ**




**8, 9 верасня** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, месцамі - уначы прымаразкі, вецер слабы, 2-4 м/с. Тэмпература паветра **8 і 9 верасня** - уначы +3...+8, удзень +13...+18.

# Лепей за сталом з сябрамі, чым такія Выбары!




# Правасуддзю не знайшлося прыстойнага месца ў нашым горадзе

**«У новых будынках мы павінны па-новаму весці правасуддзе», - заявіў міністр юстыцыі Рэспублікі Беларусь Валерый Сукала у сваім выступленні на адкрыцці будынка, у якім зараз будуць размяшчацца Упраўленне юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама і Суд Кастрычніцкага раёна горада Гродна. «Па-новаму», паводле меркавання спадара Сукалы, азначае «без хамства, без грубасці, наогул, на другім якасным узроўні».**

У складзе сталічнай дэлегацыі быў таксама намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандар Абрамовіч. Невядома, ці абмежавалася мэта прыезду такой важнай персоны ў абласны цэнтр толькі ўдзелам ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця будынка. Але і ён выступіў з прывітальным словам. Спадар Абрамовіч нагадаў прысутным пра тое, што хутка парламенцкія выбары і запэўніў, што «наша выбарчае заканадаўства адпавядае ўсім патрабаванням сучаснага грамадства» і што «улада робіць усё, каб выбары прайшлі дэмакратычна».

Павіншаваць суддзяў Кастрычніцкага раёна прыйшлі з абласной адміністрацыі, з абласной калегіі адвакатаў, прадпрыемстваў горада. Малады старшыня суда Валерый Кулакоўскі прымаў падарункі: па камп'ютару ад Абласнога суда і ад Міністэрства юстыцыі, тэлевізар ад прадпрыемства «Гроднааблнафтапрадукт», пейзаж ад калегіі адвакатаў, дыван ад спадара Абрамовіча.

Адразу з сесіі аблвыканкама прыехалі на ўрачыстасць намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Чорны і старшыня аблсавета Аркадзь Карпуць. У сваім выступленні спадар Карпуць радасна далажыў менскім гасцям, што «становішча ў вобласці добрае, стабільнае», а пто датычыць будучай выбарчай кампаніі, то «сітуацыю ведаем, кантралюем, падабраны добрыя дэпутаты». Падарунак ён, праўда, з сабою не прывёз, але запэўніў, што «Дубко на гэта выдаткаваў пэўную суму».

Нягледзячы на ўрачыстыя прамовы і віншаванні, уражання, што ўсе засталіся задаволеныя новым будынкам, не склалася. Прамовам папярэднічаў агляд памяшканняў. Высокія госці заглядалі ва ўсе кабінеты і калідоры. Міністр нават паторгаў ручку яшчэ зачыненай мужчынскай прыбіральні. «Незадаволены. Міністру не падабаецца», - чуўся шэпт мясцовай публікі. І на самой справе. Асаблівай радасці такое тварэнне выклікаць не можа. Ад яго праектавання да здачы ў эксплуатацыю мінула 10 гадоў. Размяшчэнне памяшканняў і дызайн нагадваюць звычайныя вясковыя канторы забудовы 70-х гадоў. Хол (калі яго наогул можна так назваць) адрозніваецца ад пад'езда шматкватэрнага дома хіба тым, што яшчэ свежая фарба на ягоных сценах. Але ж гэта самае першае памяшканне, куды патрапіць чалавек, што сюды завітае. Таму яно павінна выклікаць калі не трымценне і хваляванне, то хаця б павагу да правасуддзя. Зрэшты, тыя, хто цяпер будзе тут працаваць, напэўна, узрадаваныя і такому варыянту. Бо да нядаўняга часу Суд Кастрычніцкага раёна туліўся разам з Абласным па вуліцы Карбышава. Там было настолькі цесна, што іншы раз пасяджэнні суда праходзілі ў кабінетах, дзе быў хаця б адзін свабодны стол, прычым, у гэтых жа памяшканнях працавалі іншыя людзі.

Цікава абранае і месца размяшчэння будынка. Суд Кастрычніцкага раёна знаходзіцца чамусьці не ў Кастрычніцкім, а ў Ленінскім раёне і ў такім занядбаным ды пустэльным месцы, што праблема адшукаць яго будзе яшчэ доўга мучыць жыхароў горада.

**Сава Травень**

## Ментоўскі «беспредел» на дзень ведаў

**Упершыню ў Гародні Дзень ведаў сьвяткавалі так гучна. Урачыстыя мерапрыемствы з гэтай нагоды адбываліся на ўпрыгожанай чырвонымі сьцягамі плошчы Леніна. Туды й прыйшлі сотні першакурсьнікаў трох гарадзенскіх унівэрсытэтаў.**

Перад навасьпечанымі студэнтамі выступала адміністрацыя гораду, а таксама рэктары, прарэктары і выкладнікі Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсытэта імя Янкі Купалы, дзяржаўных медычнага і агратэхнічнага унівэрсытэтаў. Мэр гораду Анатоль Пашкевіч скарыстаўся моладзевым сьвятам, каб заклікаць усіх на маючыя адбыцца выбары: «...І так жа актыўна, як вы сёньня прыйшлі сюды, мусіце прыняць удзел у выбарах»! Маўляў, выбярыце таго, хто будзе праводзіць вашыя студэнтскія інтарэсы ў парляманце.

Піва, неад'емнага кампаненту усіх студэнцкіх сьвятаў, не было - ў цэнтры гораду быў забаронены гандаль алкаголем. Нягледзячы на гэта, моладзь забаўлялася, як магла - сьпявала, танчыла, слухала канцэрт і проста сядзела на клумбах. Ахоўнікі правапарадку, як заўсёды шматлікія, таксама не сумавалі. Тройка міліцыянтаў актыўна перапісвала пашпартныя дадзеныя тых, хто не паліўшу за патрэбнае ўстаць падчас выкананьня дзяржаўнага гімну. Старшы лейтэнант Мулярчык, які кіраваў «карнай апэрацыяй», паведаміў, што сьпісы гэтых маладых людзей будуць пададзеныя ў дэканаты.

**Юлія Дарашкевіч**

## Вучыцца ці жаніцца?

**Стартаваў чарговы студэнцкі навучальны год. Зноў лекцыі, канспэкты, чэргі ў бібліятэках, стрэсы падчас сэсіяў, барацьба за адзнакі й адвечнае пытаньне: як пражыць на стыпендыю ў пяць баксаў? А мо ня трэба ўсё гэта, можа, лепей пайсьці працаваць? Ці заняцца рэкетам, зарабіць шмат-шмат грошай і... Ці мо пайсьці замуж па разьліку за старэнькага мільянэра-замежніка? Вучыцца ці жаніцца? - тэма чарговага тэлефоннага апытаньня ПАГОНІ.**

Эльвіра Гусінская, загадчыца Дому грамадзянскіх абрадаў:

- Усяму свой час. Адукацыю атрымліваць лепш адразу пасьля школы, а жаніцца ніколі не позна. Да нас прыходзяць пары і па 55-57 гадоў. Грошы можна нажыць, а каханьне - не. Хаця шлюбы па разьліку лічацца мацнейшымі. Толькі я мяркую, што той, хто жэніцца з-за грошай, сам сябе абкрадае. Каханьне - гэта ж цэлы сусьвет...

Ліля, настаўніца з дзьвюма вышэйшымі адукацыямі:

- Вучыцца?! Глядзячы дзе. Калі ў нашым ГрДзУ, то гэта бессэнсоўная рэч. Лепей узяць шлюб. Можна пайсьці замуж і займацца самаадукацыяй. А ва ўнівэрсытэце ўвесь час мала таго, што абавязкова чытаеш састарэлую камуністычную літаратуру, дык яшчэ і хвалюйся: як і каму даць хабар.

Валянцін Мялешка, вядучы інжынер ААТ «Белсантэхмантаж»:

- Спачатку трэба навучыцца, пасьля - працаваць. Бо калі ты непісьменны, што ты будзеш зарабляць? Я ўсё жыцьцё вучыўся: школа, вучэльня, розныя курсы, тэхнікум, інстытут... Гэта дапамагае адчуваць сябе маладым.

Алена Сямчук, першакласьніца:

- Не, лепш вучыцца. Замужам нецікава. Гэта толькі на вясельлі добра, а пасьля... А калі вучыцься, можна шмат даведацца пра розных жывёлаў, птушак.

Уладзімір Коцкі, пенсіянэр:

- Адукацыя, безумоўна, патрэбная. Гэта - фундамэнт усяго. Але для дзяўчыны добра выйсьці замуж - лепш, чым скончыць два ўнівэрсытэты.

**Юлія Дарашкевіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Эўропа ня будзе дасылаць назіральнікаў на выбарчы фарс 15 кастрычніка

**30 жніўня ў Вене адбылася тэхнічная канфэрэнцыя АБСЭ, яе Парляманцкай Асамблеі, Парляманцкай Тройкі Эўрапарляманту. На канфэрэнцыі таксама прысутнічалі (упершыню) прадстаўнікі СНД і яе Парляманцкай Асамблеі.**

Ад дэлегацыі беларускай апазыцыі на канфэрэнцыі АБСЭ выступілі прадстаўнікі КРДС Вінцук Вячорка і Анатоль Лябедзька. Ад урадавага боку - намесьнік міністра замежных справаў С.Мартынаў.

Пасьля гэтага пачалося абмеркаваньне беларускага пытаньня, якое адбывалася ўжо без удзелу беларускіх дэлегацыяў. У выніку абмеркаваньня былі прынятыя заключныя рэкамэндацыі, у якіх, насуперак дамаганьням Лукашэнкі, Расеі й дэлегацыі СНД, няма і гаворкі накont прысланьня міжнародных назіральнікаў. Адзінае, што плянуецца Эўропай - гэта прысланьне місіі тэхнічнай ацэнкі сытуацыі пад эгідай Бюро правоў чалавека АБСЭ. У пункце 8 «Вынікаў і рэкамэндацыяў Трэцяй тэхнічнай канфэрэнцыі» (дакумэнту, прынятага сёньня на тэхнічнай канфэрэнцыі АБСЭ) зазначаецца: «Прысутнасьць тэхнічнай ацэнкі місіі Парляманцкай Тройкі і Бюро правоў чалавека АБСЭ падкрэсьлівае палітычную значнасьць таго, што Эўропа далучаецца да разьвіцьця й кансалідацыі дэмакратыі ў Беларусі. Іх прысутнасьць у Беларусі з нагоды парляманцкіх выбараў не азначае міжнароднага прызнаньня дэмакратычнага характару й вынікаў працэсу парляманцкіх выбараў».

Як заявілі кіраўнікі апазыцыі, яны ацэньваюць вынікі канфэрэнцыі як свой бясспрэчны посьпех.

**Ул. інф.**

# У Смаргоні затрымліваюць патрыётаў

**У мінулую нядзелю сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ мелі намер правесці пікет у абарону незалежнасці Беларусі ў цэнтры Смаргоні. Але мясцовая ўлада дазволіла правядзенне акцыі на ўскрайку горада, на пляцоўцы для выгулу сабакаў.**

Тады ў цэнтры горада быў наладжаны збор подпісаў у абарону незалежнасці Беларусі. Міліцыя затрымала і даставіла у пастарунак Віктара Тураўца і Віктара Шоца. У Віктара Тураўца адабралі шыльду, на якой было напісана «Збор подпісаў у абарону незалежнасці Беларусі» і «Абарона Рэспублікі Беларусь - свяшчэнны абавязак грамадзяніна Рэспублікі Беларусь» (Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, артыкул 57) і запоўнены падпісны ліст. Але пратакол быў складзены не за збор подпісаў у абарону незалежнасці, а за парушэнне пашпартнага рэжыму. Справа ў тым, што Віктар нядаўна пераехаў жыць з адной вуліцы на другую, і ў пашпарце не зроблены адпаведныя запісы.

Складзены пратакол і на Віктара Шоца, які «распаўсюджваў друкаваныя вырабы (улёткі), на якіх адсутнічалі дадзеныя, і якія былі выраблены з парушэннем устаноўленага парадку». Цяпер удзельнікаў акцыі чакае разборка ў адміністрацыйнай камісіі райвыканкама.

Застаецца дадаць, што ў час затрымання прысутнічала работніца раённай вертыкалі Ванда Мацкевіч.

**Янка Крывіч**

# Для выбараў патрабуюцца агітатары. Аплата паводле дамовы

Дзве «мінімалкі», альбо пяць тысячаў рублёў прапануе гарадзенская «вертыкаль» за чытанне лекцыяў на тэму маючых адбыцца выбараў у беларускі парламент. Ахвотных падзарабіць хапае, але праблема заключаецца ў тым, што мала хто валодае новым выбарчым заканадаўствам. Стаўкі аплаты прапагандыстаў дастаткова высокія - для параўнання можна сказаць, што стаўка аплаты працы школьнага настаўніка складае не болей як 20 тысяч у месяц пры занятасці 18 гадзінаў на тыдзень.

**С.Капнёў**

**З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінула:**

# 62 ДНІ

**Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьследаваньня абставінаў гэтай справы.**



# Кандыдат па разнарадцы

**24 жніўня на заводзе «Радыёхваля» праходзіла канферэнцыя па вылучэнню кандыдата на выбары ў лукашэнкаўскую «палатку». Правамоцнасць канферэнцыі, я лічу, была сумніўная.**

Спачатку 23 жніўня, адпаведна сцэнару кіраўніцтва, адміністрацыя цэхаў павінна была правесці цэхавыя сходы і ў залежнасці ад колькасці прысутных вылучыць дэлегатаў на канферэнцыю. Аднак ніякіх сходаў у цэхах на самай справе не праводзілі. Адміністрацыя склала спісы «добранадзейных» прадстаўнікоў, і яны ў «добраахвотна-прымусовым» парадку павінны былі з'явіцца на канферэнцыю. Ніякай ініцыятывы «знізу» не прадугледжвалася.

На самой канферэнцыі рэй вяла адміністрацыя прадпрыемства. Па ўсіх пытаннях зала паслухмяна падымала рукі. Усё ішло ціха і гладка, як у «добрыя» савецкія часіны. Дырэктар прадставіў дзве кандыдатуры. Яны ўжо былі падрыхтаваныя да выступу. Выходзілі да трыбуны, казалі, што цяперашнія «палатачнікі» нічога не вартыя, што яны далёкія ад народа і гэтак далей. Распавядалі, як нам цяжка жывецца, абяцалі прымаць добрыя законы і палепшыць жыццё. Затым з прэзідыума зачытваліся па спісу «абаронцы» кандыдатаў, і яны таксама выступалі ды хвалілі іх.

Перад самым закрыццём «дэбатаў» па кандыдатах я ўзняў руку і сам падышоў да мікрафона ў зале. Не паспеў я вымавіць і некалькі сказаў, як у прэзідыуме пачалася істэрыка. Прэзідыум запатрабаваў не разводзіць тут палітыку(!) і сядаць на месца. Па камандзе дырэктара ў зале адключылі мікрафон. Было брыдка на ўсё гэта глядзець. Затым дырэктар яшчэ некалькі разоў браў слова і ганьбіў мяне ды ўсіх нацыяналістаў. Кульмінацыяй гэтага цырку сталася выступленне з месца старшыні прафсаюзнага камітэта і ягоны «прагін» у бок адміністрацыі.

У сувязі з тым, што мне не далі выступіць на заводскай канферэнцыі, я хацеў бы тэкст свайго выступу надрукаваць у Вашай газеце, якую выпісваю і паважаю.

«Ніводная галіна ўлады на Беларусі цяпер не з'яўляецца легітымнай. Ні былы прэзідэнт, ні ягоныя «палатнікі». У краіне кіруе хеўра расейскіх шавіністаў. Міжнародная супольнасць не прызнае самазванцаў. Беларускі народ абуджаецца і вядзе актыўную барацьбу з акупантам як унутры краіны, так і за яе межамі. У гэтым яму дапамагаюць суседзі (літоўцы, палякі, украінцы) і ўся міжнародная супольнасць.




Наладжаны каланіяльнай адміністрацыяй выбарчы фарс не будзе прызнаны міжнароднай супольнасцю, бо не адпавядае наступным патрабаваням:

- палата не мае рэальных паўнамоцтваў як заканадаўчая галіна ўлады (адсутнічае падзел улады);
- выбарчае заканадаўства не прыведзена ў адпаведнасць з еўрапейскімі стандартамі;
- не забяспечаны рэальны доступ да дзяржаўных СМІ апазіцыйных партыяў і рухаў;
- не спынены палітычныя рэпрэсіі супраць беларускага народа.

Гэтыя патрабаванні беларускага народа і міжнароднай супольнасці да існуючага рэжыму агульнавядомыя. Аднак рэжым не збіраецца іх выконваць. І таму адзіна правільным рашэннем зараз з'яўляецца байкот маючага адбыцца выбарчага фарсу. Каб мы не сталі ўдзельнікамі новага злачынства супраць Беларусі, не трэба зараз нікога вылучаць, а ў далейшым - не ісці галасаваць. Байкот усім мерапрыемствам рэжыму! Толькі так нашыя суседзі палякі перамаглі ў сваёй барацьбе прамаскоўскі рэжым на сваёй тэрыторыі. Мінула зусім няшмат часу - і вось Польшчу ўжо не пазнаць. Нават заводскія «інтэгратары» не едуць гандляваць у Расею, а пруцца з кантрабандай да палякаў. Таму я прапаную галасаваць на гэтай канферэнцыі супраць усіх вылучэнцаў, таму што яны з'яўляюцца марыянеткамі ў руках прамаскоўскага рэжыму. Жыве вольная і незалежная Беларусь!»

Далейшае галасаванне прывяло да вылучэння аднаго з кандыдатаў, прапанаваных адміністрацыяй, кандыдатам на выбары ў «палату». Гэтыя вынікі былі прадказальныя. Як вядома, на «Радыёхвалі» працуе значная колькасць прыезджых з Расеі. Зараз яны тут атабарыліся, маюць беларускае грамадзянства. Але спяць і бачаць «великую Россию от Бреста до Курил». Яны адкрыта не прызнаюць нашай дзяржаўнасці і свядома выступаюць супраць усяго беларускага. Яны добра разумеюць, чаго хочуць і што твораць на Беларусі. Гэта «пятая калона» на Беларусі. Такіх на канферэнцыі было адсоткаў 30. Калі дадаць да гэтага адміністрацыю ды спажыўцоў «чаркі і шкваркі», то ўсіх разам набярэцца адсоткаў 80. Адсюль і вынікі галасавання.

Першае, што трэба будзе зрабіць будучаму сапраўднаму ўраду Беларусі, - гэта прыняць адпаведны «Закон аб грамадзянстве». Дай Бог, каб мы ці, у крайнім выпадку, нашыя дзеці, дажылі да гэтага часу. І гэты час павінен набліжаць кожны беларус.

**Мікалай Яўсей**

# Каго ўраўнаважвае нямецкая дыпламатыя?

Днямі ПАГОНЯ атрымала прэс-рэліз ад нямецкай амбасады. У ім сказана, што Кансерватыўна-Хрысціянская партыя - БНФ у сваёй заяве, надрукаванай 25 жніўня, узвяла паклёп на дзейнасць нямецкай дыпламатыі. Паклёпам з'яўляецца сцвярджэнне накont таго, што апошняя падтрымлівае «расейскую акупацыйную палітыку ў Беларусі». Амбасада зазначае, што нямецкая дыпламатыя «асабліва...спрабуе падтрымліваць незалежнае развіццё Беларусі» і што «Германія будзе і далей у цесным супрацоўніцтве са сваімі палітычнымі саюзнікамі і АБСЕ прытрымлівацца сваёй ураўнаважваючай палітыкі ў дачыненні да Беларусі».

Прэс-рэліз надрукаваны па-руску, але, паколькі заява КХП-БНФ - на беларускай мове, то атрымліваецца, што ў амбасадзе разумеюць і па-нашаму. Праўда, як заявіў ПАГОНІ адзін з лідараў КХП Сяргей Папкоў, згаданая заява нідзе не друкавалася. Яе накіравалі у КНГ АБСЕ Ю.Беленькі, які сваім подпісам засведчыў сапраўднасць дакумента. Амбасада дарэмна палічыла яго «падпісантам заявы». Але гэта дробязі. У чым жа амбасада ўгледзела паклёп?

Знаны дзеяч апазіцыі, былы намеснік міністра замежных справаў Беларусі А.Саннікаў напрост назваў у газеце «Наша свабода» прозвішча адказнага супрацоўніка нямецкага Міністэрства замежных справаў Шцюдземана, які лабіруе інтарэсы беларускага рэжыму ў Берліне. Некалькі гадоў таму кандыдат на пасаду канцлера (цяперашні канцлер) Г.Шродэр прымаў А.Лукашэнку, нягледзячы на абвешчаны Еўропай байкот. Добра вядомая пазіцыя старшыні Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Менску Х.-Г.Віка, які лічыць удзел у восеньскіх выбарах апазіцыі мэтазгодным, а сама місія праводзіць падрыхтоўку мясцовых назіральнікаў за выбарамі. Між тым, чатырох умоваў свабодных выбараў беларускія ўлады так і не выканалі. У заяве ад 25 жніўня КХП-БНФ запатрабавала змены кіраўніка менскай групы АБСЕ Х.-Г.Віка, бо ён свае магчымасці вычарпаў.

На жаль, амбасада вельмі дыпламатычна гэтыя факты абмінула, назвала тон заявы КХП «агрэсіўным», што, на думку амбасады, не дадае ёй праўды. Тон сапраўды рэзкі. КХП-БНФ заяўляе, што «народ Беларусі не прызнае вынікаў новай мюнхенскай змовы», перадумовы для якой ствараюць некаторыя колы Захаду пад дыктоўку Расеі. Але «новая мюнхенская змова» - гэта насамрэч небяспечна. «Ураўнаважваючая палітыка» прадугледжвае, што нехта ў адносінах да беларускага рэжыму дзейнічае «без раўнавагі». Хто ж гэта, беларуская апазіцыя? Амерыка? Расея? У прэс-рэлізе, на жаль, сутнасць «ураўнаважвання» не падаецца.

Усё гэта палітыка высокага ўзроўню. Настолькі высокага, што спроба ўдзелу ў ёй беларускіх палітыкаў атрымала нечаканa вострую рэакцыю. Але мы змагаемся за сваю зямлю і свае лёсы. У гэтым сэнсе межаў для ўдасканалення сваёй дзейнасці як нямецкай дыпламатыі, так і Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ няма.

**Сяргей Самасей**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Новая бензазапраўка на Пушкіна

Да 47-і аўтазаправак, што знаходзяцца ў распараджэнні прадпрыемства «Гроднааблнафтапрадукт» (больш вядомага як нафтабаза), у у ліку якіх і ўзоры сапраўднага еўрапейскага ўзроўню - заправачныя станцыі ў Скідалі і Ваўкавыску, - днямі дадасца яшчэ адна ў абласным цэнтры па вуліцы Пушкіна. Нядаўна тут пабывалі журналісты.

**Гэтая экскурсія папярэднічала прэс-канферэнцыі, арганізаванай Рэспубліканскім прэс-цэнтрам сумесна з канцэрнам «Белнафтахім». Перад прыездам сюды аўтобуса з журналістамі будаўнікі ўжо змяталі пыл з тратуарных плітак. Гэта першая гарадская запраўка, дзе будзе мыйка і кафэ, але галоўнае - тут адначасова здолеюць заправіцца восем аўтамабіляў любым з чатырох марак бензіну. Адпаведна словам генеральнага дырэктара «Гродноаблнафтапрадукта» Аляксандра Калодкі, нялёгка даецца ўзгадненне з усімі кантрольнымі службамі будоўлі падобнага аб'екту. Паколькі нашыя нормы праектавання надзвычай жорсткія і кансерватыўныя. Да прыкладу, яны катэгарычна не прадугледжваюць кафэ і бараў непасрэдна на аўтазапраўцы. Пры гэтым генеральны дырэктар пакрыўдзіўся на тую абставіну, што «чамусьці на запраўках Лукойла і Слаўнафты ўсё можна, а ў нас не». Тым не менш, заправачная станцыя пабудавана. Мае цалкам еўрапейскі выгляд, разлічана на 460 аўтамабіляў у суткі, якія будуць абслугоўвацца кругласутачна.**

На самой справе, у нечым можна пазайздросціць і ўнітарнаму гарадзенскаму прадпрыемству. Зараз, калі дазволена прадаваць гаручае за валюту, заправачныя станцыі «Гродноаблнафтапрадукта» ў Ваўкавыску і каля памежнага пераходу «Брузгі-Кузніца» перахопліваюць асноўную плынь кліентаў, што папаўняюць касу канцэрна валютай. Магчыма, менавіта таму гарадзенскае прадпрыемства ў канцэрне лічыцца лепшым сярод іншых абласцей. Мажліва, таму яму ўдаецца будаваць болей, чым калегам у іншых рэгіёнах краіны. Але ёсць нешта агульнае, што аб'ядноўвае «Гродноаблнафтапрадукт» з аналагічнымі прадпрыемствамі Беларусі - гэта даўгі свайму патрону - канцэрну.

Кіраўніцтва прадпрыемства не ўтойвае, што сума гэтая не малая, 1 250 000 000 рублёў. Ільвіная доля гэтых грошай - даўгі вясковых вытворцаў. Але спадар Калодка лічыць, што яны проста абавязаныя дапамагчы калгасам убраць ураджай. Ён так і сказаў: «У гэтым я бачу на сёння сваю галоўную задачу». Ці здолеюць пазычальнікі ў поўным аб'ёме вярнуць даўгі, відаць, не ўпэўнены ніхто з кіраўніцтва не толькі гарадзенскага прадпрыемства, але і канцэрна. Тым не менш, у гэтым замкнёным дзяржаўным ланцужку - абласное прадпрыемства вінаватае канцэрну, таму што яму завінаваціліся калгасы, бо ім вінаватая дзяржава - усе ставяцца адзін да аднаго з глыбокім разуменнем.

**Ніна Палуцкая**

# Літоўскія чыгуначнікі дапамаглі беларускім пенсіянерам

**У дыктатара Польшчы Пілсудскага на старасці гадоў надарылася радасць: узаемнае каханне з адной доктаркай з Друзгенікаў. Для зручнасці праезду свайго салон-вагона дыктатар загадаў пракласці чыгуначную ветку ад Парэчча да месца пражывання прадмета свайго зачаравання. Што і было зроблена.**

Наступныя дыктатары (Сталін, Снечкус, Машэраў, Ландсбергіс) у Друзгеніках з варожымі асобамі шуры-муры не заводзілі, дык і гэтая чыгуначная ветка без догляду састарэла, сапсавалася і стала небяспечнай.

З 21 жніўня гэтага года пасажырскі рух на ўчастку Парэчча-Друзгенікі спынены. Былыя дызельцягнікі Вільня-Друзгенікі ходзяць толькі да станцыі Марцынконіс. Усе, апрача аднаго, самага ранняга цягніка, які а 4-й гадзіне раніцы ідзе да станцыі Парэчча.

З чаго гэта ён такі добры?

А гэта - вялікая палітыка.

У Друзгеніках ёсць плошча Лукашэнкі. Разумеецца, там здавён прызвычаіліся прымаць гасцей з Гродна, Санкт-Пецярбурга, а таксама з Варкуты. Яны мысляць шырока.

А вось райцэнтр Варэна - вялікая вёска. Там гасцей прымаюць раскошна, а называюць месца для гандлю проста - «Экоратас».

І «плошча Лукашэнкі», і «Экоратас» - гэта рынкі, дзе гандлююць гарадзенскія і шчучынскія пенсіянеры. Гарадзенскіх болей. Для іх вельмі зручным быў акурат той ранішні дызель-цягнік.

Увага, электарат! Усе цягнікі адмянілі, а самы ранні для гарадзенцаў захавалі. У чым тут прычына?

На мінулым тыдні прафсаюз літоўцаў, што гандлююць на Варэнскім рынку «Экоратас», звярнуўся да мэра Варэны В.Мікалаўскаса пад пагрозай галодных акцыі і ўзаемнага самаспалення забараніць гарадзенцам гандляваць у «Экоратасе». Матыў: гарадзенцы такі ж самы тавар прадаюць танней, чым літоўцы.

Спадар Мікалаускас прапанаваў: «Ну дык і вы зніжайце кошты ды годна канкуруйце».

Гандлёвы літоўскі народ адказаў: «Мы зараз цябе так сканкуруем, што ты яйца ў чарнільніцы ўтопіш!».

Але тут узняўся народ, які прызвычаіўся купляць танныя беларускія смятану, сыр, тытунь і гарэлку. Народ сказаў сваё важкае слова.

Мясцовая прэса Варэны, зразумела, пайшла за сваімі чытачамі.

Выходзячы з гэтага, старшы інспектар паліцыі Варэнскага камісарыята Р.Куодзіс заявіў, што ён ніводнага беларуса, які паважае прынцыпы дэмакратыі і свабоднага прадпрымальніцтва, дубінкай не біў і біць не будзе. Менавіта спадар Куодзіс займаецца парадкам у «Экоратасе». Спадар старшы інспектар сказаў, што сумленне не дазваляе яму пакараць бабулю з Беларусі штрафам у 500 даляраў, калі ўвесь навар у яе - два даляры.

Гэта яшчэ не ўсё. Усюды ў свеце адміністрацыя рынкаў бярэ некаторую плату з тых, хто гандлюе на гэтых рынках. Дырэктар Варэнскага рынку «Экоратас» Р.Юшкявічус сказаў, што ні за якія пернікі не стане разбірацца: хто беларус, а хто вінету і чынгачгук. Бо правяраць пашпарты - не ягоная функцыя.

Разам з тым, спадар Юшкявічус распавёў, што не будзе мірыцца з бязладдзем і агіднасцю на сваёй уласнай тэрыторыі. Хіба гэта не жах, калі некаторыя беларусы вымаюць з кантэйнераў для смецця шматкі поліэтыленавай плёнкі ды раскладаюць на ёй каўбасу?!

Уедлівы чытач задумаецца: пачаў з чыгункі Пілсудскага, а скончыў базарам - п'яны, ці што?

Банкрутуючая літоўская чыгунка наладзіла-такі ранішні маршрут на Парэчча адмыслова для гарадзенскіх гандляроў. Даражэнькія Вы нашы, дзякуй Вам вялікі!

**Лявон Даўгяла**



**На здымку: вось так беларусы гандлюють у Варэне.**
**Фота аўтара**

# Дырэктар скончыў жыццё самагубствам

**30 жніўня ў вёсцы Каробчыцы Гарадзенскага раёна скончыў жыццё самагубствам генеральны дырэктар Гарадзенскага вытворчага тонкасуконнага аб'яднання В.Крупін, 1949 года нараджэння.**

Ён павесіўся на сваім дачным участку. Каля цела была знойдзена перадсмяротная запіска: «У маёй смерці прашу нікога не вінаваціць! Бывайце, любімая жонка, мае любімыя сыночкі, бывайце, усе добрыя людзі».

Прычына трагедыі ўстанаўліваецца.

# Замест навукі - бульба!

**4 верасня ў Гарадзенскай вобласці пачалася адпраўка студэнтаў і вучняў каледжаў і тэхнікумаў на сельгасработы.**

Усяго, у адпаведнасці з распараджэннем кіраўніцтва аблвыканкама, для аказання дапамогі калгасам і саўгасам вобласці ў своечасовай уборцы ўраджаю сельгаспрадукцыі на тэрмін не больш чым адзін месяц мяркуецца задзейнічаць 8 тысяч 85 вучняў і студэнтаў. Яны будуць працаваць ва ўсіх раёнах вобласці, акрамя Зэльвенскага і Мастоўскага.

Найбольшая колькасць дадатковай рабочай сілы накіроўваецца ў Гарадзенскі (1.090 чалавек), Лідскі (940) і Шчучынскі (720) раёны.

**Ася Куніцкая**

# Супрасль кліча нумізматаў

**Стала добрай традыцыяй праводзіць раз у два гады ў мястэчку Супрасль, што каля Беластока, нумізматычныя навуковыя канферэнцыі. Чарговая, чацвёртая, канферэнцыя пад назвай «Памятныя і юбілейныя манеты - супольнасць традыцыяў Беларусь-Латвія-Літва-Польшча-Украіна» адбудзецца з 7 па 10 верасня.**

Дом адпачынку «Пушча», размешчаны на ўскрайку маляўнічай Кнышынскай пушчы, на тры дні стане месцам сустрэчы нумізматаў пяці сяброўскіх краінаў дзякуючы арганізатарам канферэнцыі, Польскаму Нумізматычнаму Таварыству пры садзеянні Міністэрства культуры Польшчы.

Беларусь на нумізматычным форуме будзе прадстаўляць дэлегацыя з пяці чалавек пад кіраўніцтвам прафесара, доктара гістарычных навук Валянціна Навумавіча Рабцэвіча.

На канферэнцыі будуць прысутнічаць каля 50 гасцей, плануецца заслухаць болей за 30 рэфератаў, прысвечаных гісторыі вырабу памятных і юбілейных манетаў. Старшыня Беларускага нумізматычнага таварыства Віктар Какарэка раскажа пра чаканку ў 1793 годзе талераў паводле замовы Таргавіцкай канфедэрацыі, што размяшчалася ў Гродне. Дырэктар музея Нацыянальнага банка Ірына Масько прадставіць Памятныя манеты Рэспублікі Беларусь.

**Ул. інф.**

# Шляхам Серафіма Жыровіцкага

У панядзелак зранку прахожыя цэнтральных вуліцаў горада былі здзіўленыя незвычайным відовішчам. Доўгая чарада праваслаўных вернікаў з харугвамі ды іконамі, ахоўваемая з бакоў міліцыянтамі, цягнулася ўздоўж тратуараў. Гэта быў пачатак хрэснага ходу, які скончыўся ў сераду ў Жыровічах. Ён быў прымеркаваны да Дня ўслаўлення прападобна-мучаніка Серафіма архімандрыта Жыровіцкага.

У сорак першым годзе насельнік Жыровіцкага манастыра Серафім атрымаў дазвол ад нямецкіх уладаў на адкрыццё праваслаўных цэркваў ва Усходняй Беларусі, дзе да 39-га года не было ніводнага праваслаўнага храма. На вазах Серафім разам са святаром Рыгорам Кударэнкам рушыў у Менск. Па дарозе яны адкрывалі цэрквы. Потым манахі накіраваліся на Віцебшчыну і Гомельшчыну. У выніку да 44-га года імі было адчынена 74 праваслаўныя царквы. З падыходам Савецкіх войскаў яны пераязджаюць у Гародню. Тут, у манастыры Нараджэння Божай Маці 6 верасня Серафім адслужыў апошнюю літургію. Хутка ён ды ягоны паплечнік былі арыштаваныя і абвінавачаныя ў тым, што працавалі агентамі нямецкай контрразведкі. Яны былі асуджаныя на пяць гадоў канцлагеру, адкуль Серафім так і не вярнуўся.

У снежні 1999 года ён быў далучаны да Сабора беларускіх святых.

У гэтым годзе ўпершыню са дня яго смерці, з горада, дзе ён адслужыў сваю апошнюю малітву, у месца, дзе пачынаўся ягоны «крыжовы шлях», прайшлі паломнікі.

У панядзелак а палове 7-й раніцы ў манастыры Нараджэння Божай Маці быў адслужаны малебен. А ў сем гадзін каля 700 чалавек рушылі з манастыра па вуліцах Савецкай і Ажэшкі ў бок Верцялішак. Там іх чакалі аўтобусы, якія пасля малебну і абеду адвезлі вернікаў у Слонім. Адтуль яны зноў жа пехатою працягнулі хрэсны ход у Жыровічы. Шостага верасня патрыяршы экзарх Беларускі мітрапаліт Філарэт у Жыровіцкім манастыры здзейсніць чын праслаўлення Серафіма Жыровіцкага.

**Алеся Сідлярэвіч**

# У Кутузава скралі хлеб

**Жыхар вёскі Кашалёва, што ў Наваградскім раёне, скраў 1010 кілаграмаў зерня яравой пшаніцы. Ураджай захоўвалі на зернескладзе калгаса імя Кутузава. Злачынца працаваў там шафёрам.**

**Крадзеж выкрылі падчас аперацыі «Аграрнік», якую праводзіў аддзел эканамічных злачынстваў Наваградскага РАУСа.**

**Юлія Дарашкевіч**

# «Міліцыянт-забойца»

**У нумарах 15 і 16 ад 4 і 11 траўня ПАГОНЯ паведамляла пра аўтааварыю, што адбылася 29 красавіка ў Шчучыне. У ёй загінула 19-гадовая Алена Малашэнка. Прыватнай машынай маркі «Ford Orion», якая збіла дзяўчыну, кіраваў капітан міліцыі Баляслаў Вінча.**

Наша газета прасачыла, чым скончылася распачатая пракуратурай крымінальная справа. Ёю займаўся следчы па важнейшых справах пракуратуры Гарадзенскай вобласці Ю.Краеўскі.

У выніку следства было ўстаноўлена, што ў момант аварыі Баляслаў Вінча знаходзіўся у стане алкагольнага ап'янення і рухаўся, перавышаючы хуткасць, дазволеную ў межах горада (60 км у гадзіну) прыкладна на 10 кіламетраў.

Разбіраў справу Мастоўскі раённы суд. Суддзя Мікалай Герасімчык прызнаў Баляслава Вінчу вінаватым у аварыі. 24-га ліпеня яму быў вынесены прыгавор. Адпаведна артыкулу 206, ч.2 («парушэнне правілаў бяспекі руху...») Б.Вінча быў асуджаны на шэсць гадоў пазбаўлення волі. Ён адбывае іх у калоніі-пасяленні ў Горках.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Фальшывыя даляры

**На гэтым тыдні ў Гародні выяўлены фальшывыя даляры, зробленыя на высокаякаснай апаратуры.**

У касу Прыёрбанку гарадзенец прынес купюру вартасцю 50 даляраў ЗША 93 году выпуску. Экспэрты выявілі, што падробка зробленая спосабам электрафатаграфіі з выкарыстаньнем лазэрнага прынтару.

Жыхар вёскі Лабна (Гарадзенскі р-н), які нідзе не працуе, прынес у касу Белаграпрамбудбанку падробную стодаляравую купюру, таксама 93 году выпуску. Фальшыўку зрабілі спосабам глыбокага і высокага металаграфічнага друку па тэхналёгіі вытворчасьці грашовых знакаў ЗША.

**Юлія Дарашкевіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Закон аб стварэнні германскага фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» увайшоў у сілу

**12 жніўня 2000 года ўвайшоў у сілу Закон аб стварэнні фонду «Памяць, адказнасць і будучыня». Стварэнне гэтага фонду германскімі прадпрыемствамі і Федэратыўнай Рэспублікай Германія стала сімвалам усведамлення імі гістарычнай і маральнай адказнасці за падзеі часінаў нацыянал-сацыялізму. Стварэннем фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» яны жадаюць дапоўніць існуючыя дагэтуль правілы кампенсацыі прадастаўленнем гуманітарнай дапамогі. Мэта фонду заключаецца ў тым, каб без лішняй бюракратычнай цяганіны і перш за ўсё хутка аказаць дапамогу былым падняволным рабочым ды іншым ахвярам нацыянал-сацыялізму.**

Закон прадугледжвае, што апрацоўка заяваў і выплата грошай будзе праводзіцца праз партнёрскія арганізацыі ў Польшчы, Чэшскай Рэспубліцы, Беларусі, Расеі ды на Украіне. У Рэспубліцы Беларусь гэта будзе фонд «Узаемаразуменне і згода». Такія арганізацыі, як **Jewish Claims Conference** (JCC - Канферэнцыя па матэрыяльных прэтэнзіях яўрэяў да Германіі) і Міжнародная арганізацыя па міграцыі (MAM) будуць займацца гэтым пытаннем у астатніх краінах. Тэрмін падачы заяваў пачаўся са дня ўваходжання ў сілу Закона аб стварэнні фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» і будзе доўжыцца восем месяцаў. Заяўнікі павінны будуць дакументальна пацвердзіць свае права на атрыманне выплаты. Прычым, адпаведныя партнёрскія арганізацыі павінны будуць ім у гэтым дапамагчы.

Адзін з кірункаў у будучай дзейнасці фонду будзе звязаны з захаваннем памяці пра Халакост ды іншыя злачынствы нацыянал-сацыялізму, а таксама з тым, каб шляхам распаўсюджання інфармацыі ды арганізацыі сустрэчаў, прадухіліць паўторную пагрозу, што зыходзіць ад таталітарных сістэмаў.

Закон аб стварэнні германскага фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» прадугледжвае выплаты кампенсацыяў перш за ўсё заяўнікам,

- якіх утрымлівалі пад арыштам і змушалі працаваць у канцэнтрацыйным лагеры ці іншым месцы прымусовага ўтрымання па-за тэрыторыяй сённяшняй Аўстрыйскай Рэспублікі або ў гета ў падобных умовах;

- якія былі дэпартаваныя з радзімы на тэрыторыю Германскага рэйху ў межах 1937 года альбо на акупаваныя ім вобласці, прымушаліся да працы на прамысловым прадпрыемстве ці ў дзяржаўным сектары, якія ўтрымліваліся пад арыштам у іншых, чым пералічана вышэй умовах, ці змушана знаходзіліся ў надзвычай дрэнных, параўнальных з арыштам, умовах утрымання. Гэтае правіла не распаўсюджваецца на асобаў, якіх прымушалі да працы пераважна на тэрыторыі сённяшняй Аўстрыйскай Рэспублікі і якія могуць атрымаць кампенсацыю ад Аўстрыйскага фонду прымірэння.

У законе ёсць **агаворка**, якая дазваляе партнёрскім арганізацыям аказваць дапамогу таксама іншым ахвярам нацыянал-сацыялістычнага рэжыму, асабліва падняволным работнікам, занятым у сельскай гаспадарцы. **Партнёрскія арганізацыі прымаюць рашэнне па выкарыстанні дадзенай агаворкі пад сваю адказнасць.**

***Знаходжанне ў палоне не дае падставаў для атрымання выплаты.***

Закон прадугледжвае таксама выплаты заяўнікам, якія пацярпелі падчас расавага пераследу пры істотным, непасрэдным удзеле германскіх прадпрыемстваў, што прывяло да страты маёмасці па сутнасці закона аб кампенсаванні страты, і не здолелі атрымаць кампенсацыю ў сувязі з тым, што не пражывалі ў краінах, на якія распаўсюджваўся федэральны закон аб кампенсаванні страты.

Далей закон прадугледжвае - у выглядзе асобнай працэдуры - кампенсацыю за іншую страту маёмасці ў сувязі з супрацьпраўнымі дзеяннямі нацыянал-сацыялізму. Рашэнне па страхавому кампенсаванню прымаецца Міжнароднай камісіяй па страхавых кампенсацыях стратаў, учыненых нацыянал-сацыялізмам. Кампенсаваннямі па іншых маёмасных стратах займаецца Міжнародная арганізацыя па міграцыі.

Закон прадугледжвае таксама выплату кампенсацыяў за іншыя страты, учыненыя асобам у сувязі са злачынствамі нацыянал-сацыялізму. Перш за ўсё, гэта выпадкі медычных вопытаў ці смерці або цяжкай шкоды здароўю дзіцяці, якое пражывала ў дзіцячым доме для дзяцей падняволных работнікаў.

Тэкст закона можна атрымаць у Інтэрнэце па адрасу: **www.bundesfinanzministerium.de**

Закон прадугледжвае, што апрацоўка заяваў і выплата грошай будзе праводзіцца цераз **партнёрскія арганізацыі**. Заявы падаюцца на распрацаваных і зацверджаных органамі фонду бланках. Пасля таго, як будуць урэгуляваныя дамоўныя адносіны паміж фондам і партнёрскімі арганізацыямі, атрымаць бланкі і здаць на апрацоўку заявы можна будзе ў наступных арганізацыях:

- заяўнікі ў Польшчы, Чэшскай Рэспубліцы, Беларусі, Расеі ды на Украіне павінны звяртацца ў адпаведныя фонды Прымірэння ці, адпаведна, у Германа-чэшскі Фонд будучыні.

- заяўнікі-яўрэі ў Ізраілі, ЗША і ва ўсіх краінах, дзе не існуе фондаў Прымірэння, павінны звяртацца ў Conference on Jewish Material Claims against Germany;

- заяўнікі са сталым месцам жыхарства ў Эстоніі (дзе будуць створаныя аддзелы па прыёму заяваў) павінны звяртацца ў фонд у Менску;

- заяўнікі са сталым месцам жыхарства ў Літве і Латвіі, дзе таксама будуць створаныя аддзелы па прыёму заяваў, павінны звяртацца ў фонд у Маскве;

- заяўнікі са сталым месцам жыхарства ў Рэспубліцы Малдова павінны звяртацца ў фонд у Кіеве;

- заяўнікі, якія стала пражываюць па стану на **16 лютага 1999** года ў іншых, чым пералічаныя вышэй, рэспубліках былога СССР, павінны звяртацца ў тыя партнёрскія арганізацыі, з тэрыторыі кампетэнцыі якіх яны былі дэпартаваныя;

- іншыя заяўнікі павінны звяртацца ў Міжнародную арганізацыю па міграцыі, якая мае рэгіянальныя прадстаўніцтвы ў 80-ці краінах.

Тэрмін падачы заяваў пачаўся са дня ўваходжання ў сілу закона - 12 жніўня 2000 года - і скончыцца праз **8 месяцаў**. Тэрмін падачы заяваў у Міжнародную арганізацыю па міграцыі - **12 месяцаў**. Заявы павінны быць пададзены**я выключна ва ўказаны тэрмін**, г.зн. да 11 красавіка 2001 года і, адпаведна, па лініі Міжнароднай арганізацыі па міграцыі - да 11 жніўня 2001 года.

Рашэнне адносна кампенсацыяў па страхавому кампенсаванню прымаюцца спецыяльнай камісіяй пры Міжнароднай арганізацыі па міграцыі.

Заявы адносна іншых выплатаў па закону фонду - асабліва для работнікаў прымусовай працы - павінны быць пададзены ўласнаручна з указаннем гэтых выплатаў. Калі асоба, якая мае права на выплату памерла пасля 15 лютага 1999 года, то права падачы заявы заходзіўваецца за мужам (жонкай) і дзецьмі, якія атрымліваюць роўныя долі выплаты. Калі ж муж (жонка) памерлай(-ага) і дзеці таксама памерлі, то права на роўныя долі выплаты пераходзіць да ўнукаў. Калі ж унукаў няма, то падаць заяву могуць родныя брат ці сястра. Калі такіх таксама няма, то права пераходзіць да ўказанага ў тэстаменце нашчадка.

Працэдура падачы заявы **бясплатная**. Партнёрскія арганізацыі не маюць права на спагнанне пасярэдніцкіх ды іншых пошлінаў. У працэдуры **не патрабуецца** абавязковага **ўдзелу адваката**. Федэральны ўрад не даручаў дадзеную дзейнасць ніякім пасярэднікам, што здзяйснялі яе на прафесійнай аснове, і, адпаведна, не прызначаў іх. **Кампенсаванне выдаткаў выключана.**

**Правы** атрымання заяўнікам кампенсацыі павінна быць пацверджана дакументамі. Калі пададзеных дакументаў недастаткова, то асоба, што прэтэндуе на атрыманне выплаты, можа даказаць факт пераследу іншым шляхам, напрыклад, з дапамогаю сведкаў. Кампетэнтныя партнёрскія арганізацыі абавязаны дапамагаць заяўнікам у пошуках дакументаў. Так, да прыкладу, яны будуць атрымліваць адказы на запыты ў Міжнародную службу вышуку ці іншыя архівы па скарочанай працэдуры разгляду, што зойме значна меней часу, чым асабісты запыт на замежнай мове.

Адрас фонду:

**Фонд «Памяць, адказнасць і будучыня»**
**Stiftung Erinnerung, Verantwortung und Zukunft**
Mauerstr. 39-40
10117 Berlin
Тэл. 49-030-233-10-0
Fax: 49-030-233-10-260
E-mail: post@barov.bund.de
Internet: www.barov.bund.de

**Міжнародная арганізацыя па міграцыі**
**International Organization for Migration**
P.O. Box 71
CH - 1211 Genf 19
Тэл: 41-22-717-92-30
Fax: 41-22-798-6150
E-mail: compensation@iom.int
Internet: www.compensation-for-forced-labour.org

- Для заяўнікаў са сталым месцам жыхарства ў Германіі:
IOM-Regionalbuero Deutschland
Inselstraβe 12
10179 Berlin
Тэл. 49-030-278-778-15
Fax: 49-030-278-778-99
E-mailo: berlin@iom.int

**Беларускі Фонд «Узаемаразуменне і згода»**
вул. Якуба Коласа, 39а
220013 Менск
Тэл. (00-375-17) 268-31-83 ці 231-81-17
Факс: (000372-17) 210-01-71

**Расейскі фонд «Узаемаразуменне і згода»**
Сталовы завулак,6
121069 Масква
**Тэл./факс: 007-095-291-10-48**

**Украінскі нацыянальны фонд «Узаемаразуменне і згода»**
вул. Фрунзэ,15
01080 Кіеў
Тэл./факс: 00380-44-462-50-06

# Дыялог пра тысячагоддзе

**Рэцэнзія на кнігу «Наша тысяча гадоў», Ю.Хмялеўскі, С.Яновіч, Беласток, 2000, Саюз беларускіх журналістаў у Польшчы**

Z Sokratem Janowiczem
rozmawia Jerzy Chmielewski




Людзі самі ствараюць міфы - і толькі людзі могуць выйсці з тых міфаў, якія самі стварылі. Новая кніга, дыялог пра гісторыю і сучаснасць Беларусі і Беластоцкага Краю пяра Юрыя Хмялеўскага і Сакрата Яновіча, дапаможа менавіта ў пошуках такога выйсця. Дарэчы, імёны аўтараў гарантуюць найвышэйшую якасць падбору і апрацоўкі фактаў, бо сваю працу выносяць на суд людзі неабыякавыя і дасведчаныя.

Інжынер Юрый Хмялеўскі з 1992 года рэдагуе месячнік «Czasopis» у Беластоку, папулярнае беларускае выданне, якое распаўсюджваецца па ўсёй Польшчы.

Сакрат Яновіч, старшыня Таварыства «Вілла Сакратас» у айчынных Крынках на Беласточчыне (Еўрапейскага Клуба Літаратараў), уваходзіць у чацвёрку беларускіх аўтараў, прадстаўленых на старонках найбольш аўтарытэтнай сусветнай літаратурнай энцыклапедыі «Пісьменнікі Свету»; вядомы ён як аўтар шасцідзесяці кніжак, выдадзеных ад Лондана да Менска, лаўрэат шматлікіх літаратурных і дзяржаўных узнагародаў.

Сама кніга «Наша тысяча гадоў» шматпланавая і шматгранная ды складаецца з чатырох частак, кожная з якіх сама па сабе вартая асобнай кнігі.

«Перад дарогай» прысвечана такой неакрэсленай і разам з тым пякучай тэме, якую самі аўтары трапна акрэслілі як «Беларускі Лёс»: месца чалавека ў часе і на зямлі, ён і яго народ, яго карані і пачаткі, доля яго самога і доля яго Краю.

«Малы Край з вялікай гісторыяй» - гэта малая энцыклапедыя гісторыі Беларусі ад перадхрысціянскага часу да нашых дзён. Аднак, з той папраўкай (а гэта, хіба, першы выпадак у нашай літаратуры!), што гіторыю ўсяе Беларусі аўтары не адрываюць ад гісторыі сваіх мястэчак, Крынак і Орлі, Шудзялава ці Плянтаў - бо менавіта там рабілася тая гісторыя. Гэта вельмі важна, бо мы прызвычаеныя, што «вялікія падзеі» адбываліся дзесьці там, далёка, за лясамі-гарамі... А тут, дзе наша «малая радзіма», было толькі сонца, ціха і грозна... А гэта не так! Абсалютна не так! І добра было б, каб нашыя гісторыкі, блукаючы ў тых «вялікіх падзеях», таксама вярнуліся да свае маленькай зямлі...

«Следам місіянераў» прысвечана духоўнаму жыццю нашых продкаў (і нашаму, безумоўна!): дахрысціянскі час, Кірыла з Мяфодзіем, Скарына, Скарга ды іншыя вялікія дзеячы праваслаўя, каталіцтва, пратэстантызму праходзяць перад нашымі вачыма, як жывыя.

«Слова гэта ўсё» прысвечана, натуральна, шматгадовай літаратурнай працы самога Сакрата Яновіча, месцы літаратуры ў Прасторы і Часе ўвогуле і, нават, тэхналогіі літаратурнай творчасці, друку і ўсіх наступстваў... У пэўным сэнсе, гэта таксама вельмі-вельмі рэдкая галіна нашай літаратуры.

У нас прынята пісаць (у рэцэнзіях на гістарычныя кнігі), што «не з усімі меркаваннямі аўтараў можна пагадзіцца». Але ж на тым перш за ўсё Хмялеўскаму і Яновічу залежыць! Так яны і папярэджваюць, што гэтая кніга «не падручнік, і нават не храналогія». Безумоўна, усё сказанае мае пад сабой цвёрдую фактычную падваліну, але ж гісторыя - гэта навука пра чалавека (як і літаратура!), а колькі людзей - столькі і думак.

Гісторыя не вучыць мінуламу - гісторыя вучыць думаць пра будучыню.

«Наша тысяча гадоў» выгодна адрозніваецца ад шматлікіх за апошнія гады тонкіх манаграфіяў ды тоўстых энцыклапедыяў, таксама складзеных не двума, нават, а «калектывам аўтараў». Таму што ў Хмялеўскага і Яновіча сутыкненне думак натуральнае, прыроджанае. Бо гэта людзі рознага ўзросту і з розным жыццёвым досведам, якіх яднае тое, што даўней называлася міласцю да Айчыны, - і пра што мы сёння не заўжды памятаем.

«Наша тысяча гадоў» паўстала ў цэнтры Еўропы, на мяжы дзвюх культураў, лацінскай і візантыйскай, на мяжы Ўсходу і Захаду - і проста выдатна, што аўтары не перацягвалі наш Край на той ці іншы бок, не дзялілі яго на «нашых і вашых». Бо ніводную зямлю нельга падзяліць. Надзвычай цікавыя звесткі з жыцця царквы і касцёла, яўрэяў і татараў, лютэранаў і стараавераў. Дарэчы, гарадзенцы з цікавасцю прачытаюць пра тое, што мястэчка Крынкі (цяпер лічыцца «замежным») планавау і будаваў...той самы гарадзенскі староста Антон Тызенгаўз, чый надмагільны помнік стаіць да сённяшняга дня ў нашым Фарным касцёле. Чалавек здаўна ставіць межы, а потым на іх наракае. Ці ж не час навучыцца жыць так, каб межы спакойна стаялі на месцы, але не перашкаджалі жыць людзям - няўжо пасля ўсіх падзеяў XX стагоддзя гэта так цяжка?!

Адным словам, кнігу «Наша тысяча гадоў» варта было б прачытаць і проста ўсім зацікаўленым гісторыяй і сучаснасцю свайго Краю, і тым, хто хоць бы паводле свайго службовага (і чалавечага, спадзяюся) абавязку, мацуе тут культурныя ды іншыя сувязі. Зразумела, што ўсякая кніга патрабуе часу, а добрая кніга - шмат часу. Не справішся з ёю ў аўтобусе ці вагоне. Але яшчэ сам Чэслаў Мілаш, наш зямляк і Нобелеўскі лаўрэат, трапна заўважыў, што добрая кніга заўжды...крыху нудная. Бо гэта не комікс з малюнкамі, а таму вымагае цярпення, розуму і хаця б пачатковай падрыхтоўкі. Але добрая кніга дае чалавеку тое, чаго за тыя самыя грошы нідзе не купіш: прайсці час і вярнуцца назад. Толькі што больш спраўным, спакойным і разумным. «Другім чалавекам».

Хто будзе ў Беластоку, набыць кнігу «Наша тысяча гадоў» можна ў крамах ці рэдакцыях на вуліцы Ліповай. Будзем спадзявацца, што нашыя аматары кнігі і ўсе, хто любіць свой Край, давязуць яе і да нас, проста ў рукі. Межы для таго зробленыя, каб...ездзіць праз іх! Тое самае сцвярджаюць аўтары Юрый Хмялеўскі ды Сакрат Яновіч.

**Алесь Чобат**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# «Аўгустоўскі канал - водны шлях еўрарэгіёна «Нёман»

**У Польшчы выйшаў у свет даведнік для турыстаў «Аўгустоўскі канал - водны шлях еўрарэгіёна «Нёман». Гэта вынік сумеснай дзейнасці спецыялістаў, навукоўцаў і дзеячаў культуры дзвюх суседніх краінаў, а дакладней, іх прыгранічных абласцей - Гарадзенскай (РБ) і Падляскага ваяводства (РП).**

Выданне гэтае даволі прэзентабельнае, інфармацыйна напоўненае, багата ілюстраванае фотаздымкамі. Складаецца з чатырох раздзелаў. Першы - пра гісторыю Аўгустоўскага канала, яго будаўніцтва ў 1824-1839 гадах. Другі раздзел прысвечаны апісанню воднага шляху ад першага да апошняга шлюзу з характарыстыкай тэхнічных аб'ектаў і пабудоваў. У трэцім раздзеле аўтары праводзяць чытача па Аўгустоўскаму каналу, які дзеляць на пяць этапаў: Гонендзе-Дзембув, Дзембув-Аўгустоў, горад Аўгустоў, Свабода-Кужынец і Кужынец-Немнава. Апісанні не абмяжоўваюцца толькі каналам, а ахопліваюць месцы ў непасрэднай блізкасці ці крыху аддаленыя ад яго, цікавыя сваёй гісторыяй. І, нарэшце, у апошнім раздзеле, што прысвечаны развагам пра лёс гэтага помніка воднага будаўніцтва, ёсць апісанне праекту стварэння Культурнага парка Канала Аўгустоўскага на польскім боку і выказванні розных людзей на тэму рэканструкцыі канала і вяртання ягонай воднасці. Сярод аўтараў тэкстаў - гарадзенскія гісторыкі Святлана Куль-Сяльверстава, Ігар Трусаў, Вячаслаў Швед, а фотаздымкаў - Юрый Палуцкі, Аляксандр Ласмінскі, Ігар Коршунаў, усе яны прадстаўляюць фотаклуб «Гродна».

На жаль, у Гродна патрапіла некалькі паасобнікаў даведніка для турыстаў. Іх атрымалі сааўтары выдання з беларускага боку. І гэта няправільна, лічыць гісторык Святлана Куль-Сяльверстава. Бо частка канала знаходзіцца на беларускай тэрыторыі, прычым гэтая тэрыторыя ў гістарычным плане самая цікавая. Наша насельніцтва таксама мае права атрымліваць інфармацыю пра Аўгустоўскі канал, тым больш у такім прыгожым афармленні. Аднак выданне рыхтавалася за грошы, атрыманыя ад Еўрасаюза польскім бокам. Гарадзенская дырэкцыя Еўрарэгіёна адмовілася дапамагчы фінансамі, спаслаўшыся на іх адсутнасць. Зараз супрацоўнікі Лабараторыі праблемаў рэгіянальнай культуры перакладаюць даведнік для турыстаў на рускую мову. Пераклад будзе аддадзены польскаму боку, пасля выйдзе яшчэ 500 паасобнікаў даведніка «Аўгустоўскі канал - водны шлях еўрарэгіёна «Нёман». Але пытанне пра тое, ці патрапіць штосьці з гэтага накладу ў Гродна, застаецца адкрытым. Зрэшты, як і тое, чаму палякі дадумаліся выпусціць даведнік па-польску, а беларускія навукоўцы аніяк не хочуць зрабіць яго па-беларуску!

**Ніна Палуцкая**

# Нацыянальная структура насельніцтва Беларусі: 1989-1999

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)

Гарадзеншчына аказалася адзінай вобласцю Беларусі, дзе большасць насельніцтва размаўляе па-беларуску (53,6 працэнта). На беларускай мове размаўляе таксама большасць палякаў і літоўцаў. Апроч гэтага, значная частка насельніцтва Гарадзеншчыны размаўляе на польскай, літоўскай, татарскай ды іншых мовах. Большасць з гэтых людзей размаўляе па-польску (1,4 працэнта). Беларусы сярод іх складаюць 0,5 тысячы чалавек.

Трэба таксама адзначыць, што за перыяд з 1989 года колькасць беларусаў, якія прызналі роднай мовай расейскую, зменшылася на 3,1 працэнта, палякаў - на 6,0 працэнта, расіянаў - на 7,8 працэнта, яўрэяў - на 10,4 працэнта. У той жа час звяртае на сябе ўвагу больш інтэнсіўнае, чым па ўсёй рэспубліцы змяншэнне колькасці яўрэйскага насельніцтва. Толькі 937 жыхароў Гарадзенскай вобласці ў 1999 годзе адзначылі сваю прыналежнасць да яўрэйскай нацыі.

Варта таксама адзначыць, што на пачатку 90-х гадоў ХХ стагоддзя працэсы русіфікацыі і саветызацыі насельніцтва Беларусі ў значнай ступені былі спыненыя. Распачаўся чарговы этап нацыянальна-культурнага Адраджэння народаў краіны. Беларусы, палякі, літоўцы, татары, яўрэі ды іншыя адраджалі свае культурныя традыцыі, стваралі сістэму вывучэння мовы ўласнай нацыянальнасці. Усё гэта спрыяла пашырэнню нацыянальнай самаідэнтыфікацыі сярод народаў Беларусі. Амаль упершыню ў ХХ стагоддзі гэтыя народы адчулі дзяржаўны клопат пра іх нацыянальна-культурнае развіццё. З'явілася рэальная магчымасць фармавання з розных этнасаў краіны палітычнай беларускай нацыі, галоўным крытэрыем прыналежнасці да якой з'яўлялася ўжо не этнічнасць, а дзяржаўная прыналежнасць. Гэты працэс суправаджаўся эміграцыяй часткі прышлага рускага насельніцтва, якой найцяжэй было прыняць факт існавання незалежнай беларускай дзяржавы, і вяртаннем на Радзіму значнай колькасці беларусаў з былых рэспублікаў СССР.

Іншым фактарам, які досыць моцна пачаў уплываць на нацыянальную структуру насельніцтва Беларусі, стаўся дэмаграфічны крызіс, першыя праявы якога сталі заўважальнымі ўжо напрыканцы 80-х - у пачатку 90-х гадоў. Вядома, што ў 1992 годзе нарадзілася прыблізна столькі ж дзяцей, колькі ў 1943 ваенным годзе. У сярэдзіне 90-х Беларусь, адпаведна ацэнкам дэмографаў, апынулася ў стане дэпапуляцыі.

У сярэдзіне 90-х гадоў дзяржаўная палітыка зрабіла даволі рэзкі паварот. Ён быў звязаны з імкненнем прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і досыць уплывовых палітычных сілаў (уплывовая частка расейскай палітычнай эліты, камуністычныя партыі былых рэспублікаў СССР, велікарускія шавіністычныя арганізацыі ды іншыя) да адраджэння Савецкай імперыі. Гэты паварот выявіўся ў аднаўленні палітычнага курсу на русіфікацыю і саветызацыю насельніцтва і ў адмове ад умацавання дзяржаўнага суверэнітэту. Працэс беларусізацыі быў гвалтоўна спынены. Узніклі перашкоды ў правядзенні культурна-асветніцкай і грамадскай дзейнасці нацыянальных суполак Беларусі. У масавай свядомасці ізноў пачала пашырацца боязь быць заўважаным у прыналежнасці да той або іншай нацыянальнай супольнасці. Тым не менш, цалкам пераламіць тэндэнцыю нацыянальна-культурнага Адраджэння ўлады не здолелі. Лепшыя прадстаўнікі беларускай, польскай, літоўскай, яўрэйскай ды іншых супольнасцяў насуперак афіцыйнай пазіцыі кіраўніцтва беларускай дзяржавы працягваюць барацьбу за развіццё роднай культуры, за права кожнага чалавека на нацыянальнае самавызначэнне.

**Табліца 7**

**Размеркаванне насельніцтва Гарадзенскай вобласці па нацыянальнасцях і мовах. 1999 г.**

| Нацыянальнасць | Колькасць (тыс.чал.) | З агульнай колькасці асобаў дадзенай нацыянальнасці ў % | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Лічаць роднай мову сваёй нацыянальн. | Мова, на якой размаўляюць у хаце | | |
| | | | Беларус. | Расейская | Іншыя |
| Разам | 1185,2 | 69,3 | 53,6 | 44,7 | 1,7 |
| У тым ліку | | | | | |
| Беларусы | 738,2 | 87,9 | 60,5 | 39,4 | 0,1 |
| Палякі | 294,1 | 18,7 | 58,9 | 35,5 | 5,6 |
| Расіяне | 119,2 | 88,0 | 8,3 | 91,7 | 0,0 |
| Украінцы | 21,2 | 34,1 | 15,3 | 81,7 | 3,0 |
| Літоўцы | 3,0 | 60,2 | 39,3 | 30,6 | 30,1 |
| Татары | 2,2 | 12,8 | 43,9 | 55,7 | 0,4 |
| Яўрэі | 0,9 | 8,2 | 6,2 | 93,3 | 0,5 |

**Алесь Смалянчук**

# У гонар беларускай зброі

**«Мужныя рыцары! Няхай доблесць і мужнасць вашыя будуць варты слаўных Бацькоў!..»**

**Менавіта гэтыя словы славутага беларускага гетмана Канстанціна Астрожскага наскрозь прасякваюць новыя работы гарадзенскага мастака Дзмітрыя Іваноўскага. Вялізныя батальныя сцэны, створаныя мастаком, услаўляюць беларускіх ваяроў і прысвечаныя блізкаму святу - 8 верасня, Дню Беларускай Вайсковай Славы.**



Сапраўдныя беларускія ваяры ў «Ажыўшай «Пагоні» Дзмітрыя Іваноўскага

Ідэя стварэння шэрагу падобных карцінаў выспявала ў майстра Іваноўскага ўжо колькі гадоў, аднак на палатно задумы пачалі класціся літаральна нядаўна, крыху болей за год.

На адной з карцінаў, якая мае назву «У гасцях у зайца», вялікі князь Гедымін са сваёй дружынаю завітаў у Гародню да Давыда Гарадзенскага пасля чарговага нападу крыжакоў. На тле разбітага ворага і Святой Каложы - дзве, безумоўна, значныя ў гісторыі Беларусі постаці глядзяцца досыць сімвалічна.

Тое, што адразу кідаецца ў вочы, калі глядзіш на сцэны бітваў, гэта зброя: алебарды, мячы, арбалеты, гарматы, тарчы. Як адзначае сам мастак, ён імкнуўся пазбегнуць штучнасці ў зброі, максімальна наблізіць яе да сапраўдных тагачасных узораў.

«Матэрыялы дасылаліся і з Польшчы, і з Нямеччыны, моцна дапамагалі і мясцовыя навукоўцы. У нашых людзей часцей за ўсё ўяўленне пра беларускае войска - касінеры, сяляне ўзялі касу і пайшлі ваяваць. Насамрэч, гэта было ўзбраенне не горшае за крыжацкае. Нават Ягайла, калі ішла Грунвальдская бітва, даў загад сваім ваярам павязаць праз плячо саламяныя жгуты, каб можна было адрозніць нашых рыцараў ад нямецкіх. Гэта сведчыць пра элітарнасць беларускай зброі».

А прэзентаваць свае работы гарадзенцам мастак збіраецца незвычайным чынам. Убачыць іх можна будзе на святочнай выставе, прымеркаванай да Дня Беларускай Вайсковай Славы. Яна адкрыецца 8 верасня а 15-й гадзіне ля помніка Сакалоўскаму проста пад адкрытым небам.

Да свята застаўся толькі адзін дзень. Таму, на жаль, галоўную святочную карціну - даніну герою Аршанскай бітвы Канстанціну Астрожскаму - мастак наўрад ці паспее скончыць. Спадзяемся, што яе разам з іншымі творамі Дзмітрыя Іваноўскага можна будзе пазней пабачыць на выставе, што плануе адкрыць гарадзенская арганізацыя БНФ.

**Павал Мажэйка**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Нежаданне зменаў, ляноту і апатыю Вы абавязкова пераадолееце ў аўторак і дасягнеце даўно чаканых вынікаў на працы.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Ці не варта крыху прытармазіць? Праводзьце як мага болей часу са сваёй сям'ёю і блізкімі сябрамі, асабліва ўдалечыні ад гарадской мітусні.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Вам будуць неверагодна ўдзячныя тыя, хто на гэтым тыдні з Вамі нейкім чынам сутыкнецца. Імкненне быць у згодзе з усімі надзвычай Вас задаволіць.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Зоркі абяцаюць падараваць Вам шэраг прыемных сюрпрызаў, звязаных не толькі з працай. Найбольш адказныя справы плануйце на пятніцу.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Менавіта на гэтым тыдні дасягнеце мэты, пастаўленай на мінулым. Скарыстайцеся парадамі сваякоў у чацвер і пятніцу.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Паспрабуйце не прымаць неабдуманых рашэнняў: Фартуна будзе выпрабоўваць Ваш характар, і Вы рызыкуеце нарабіць даволі шмат памылак.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Вас уразіць спагадлівасць у дачыненні да сяброў і Ваша жаданне выканаць любы капрыз партнёра(-кі) напрыканцы тыдня.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Найбольш напружанымі стануцца для Вас першыя тры дні гэтага тыдня. Будзьце надзвычай асцярожнай(-ым).

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не даводзьце сябе да ператамлення і нервовых зрываў Вашымі сямейнымі праблемамі. Варта не прымаць блізка да сэрца верагодныя фінансавыя непрыемнасці.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** У другой палове тыдня справы на любоўным фронце палепшацца. Удала адпачнеце ў нядзелю, калі загадзя ўсё прадумаеце.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Такое адчуванне, быццам нехта спецыяльна стварае на Вашым шляху перашкоды. Не зважайце на іх. Усё ў Вас атрымаецца!

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Паспрабуйце не бянтэжыцца ні ў якіх сітуацыях. Прыкладзіце ўсе намаганні, каб Вашыя сямейныя адносіны не далі расколіну.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласной унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2782 Наклад 7 140
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 6.09.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013